# ЯК ПРЫШЧЭПЛІВАЦЬ ПЛАДОВЫЯ ДРЭВЫ?

Існуе шмат спосабаў прышчэпкі пладовых дрэў, але ўсе яны могуць быць падзелены на дзве асноўныя групы: акуліроўку і прышчэпку чаранком. Шырэй ужываецца ў пладаводстве акуліроўка. Гэтым спосабам прышчэпліваюць ва ўсіх пладовых гадавальніках, а таксама аматары садаводства, якія займаюцца размнажэннем культурных гатункаў пладовых дрэў.

Звычайна акуліруюць (прышчэпліваюць пупышкай, «вочкам») адна-




**АКУЛІРОЎКА. 1. Падрыхтоўка чаранка для акуліроўкі; справа на чаранку абрэзаны лісты з часткай іх чарашкоў. 2. Здыманне шчытка (пупышкі) з чаранка для акуліроўкі. 3. Устаўленне вочка ў разрэз кары падвоя і абвязка: а — шчыток, зняты з чаранка; б — Т-падобны надрэз кары на падвоі; в — у разрэз кары ўстаўлен шчыток; г — абвязка месц прышчэплівання.**

гадовыя дзічкі — расліны, вырашчаныя з насення. Лепшы час акуліроўкі — канец ліпеня і пачатак жніўня, гэта значыць перыяд так званага другога (летняга) сокаруху. Калі кара на дзічцы добра адстане і галінкі, з якіх бяруцца вочкі, паспелі, то з прышчэпкай марудзіць нельга. Саспелыя парасткі звычайна маюць шэрую або шаравата - цёмную афарбоўку і пры згінанні на злом злёгку патрэскаюць.

За пяць — шэсць дзён да акуліроўкі ствалы дзічак да вышыні 10—15 сантыметраў ад каранёвай шыйкі ачышчаюць ад бакавых разгалінаванняў. Чаранкі нарыхтоўваюць непасрэдна перад акуліроўкай. На гэта бяруць моцна развітыя парасткі (аднагадовы прырост), але не ваўчкі, з добра паспелымі і зусім сфарміраванымі пупышкамі (вочкамі). Лісты абрываюць, пакідаючы толькі чаранкі даўжынёй у 1 — 1,5 сантыметра. Зрэзаныя на чаранкі парасткі трымаюць у вядры з вільготным мохам і прыкрываюць ад сонца мешкавінай або рагожай.

Акуліроўку пладовых дрэў у нашых умовах праводзяць у такой паслядоўнасці: спачатку — сліву, затым вішню, чарэшню і грушу. Яблыню прышчэпліваюць на працягу ўсяго перыяду акуліроўкі. Перад прышчэпкай абціраюць ствол мяккай анучай, каб на ім не было зямлі. Прышчэпліваюць звычайна на вышыні трох — пяці сантыметраў ад каранёвай шыйкі. Тэхніка акуліроўкі наступная. Зразаюць шчыток (пупышка з невялікім участкам кары і драўніны), устаўляюць яго за кару дзічкі, у Т-падобны разрэз, як гэта паказана на малюнку. Калі шчыток з вочкам устаўлен, кару вакол яго абціскаюць пальцамі. Затым месца акуліроўкі шчыльна абвязваюць мачалам або ізаляцыйнай стужкай.

Пры нармальных умовах вочкі прыжываюць (прырастаюць) у яблыні і грушы па 8—10 дзён, у вішні і сліў — пазней. Вочкі, якія прыжыліся, дадуць парасткі толькі на наступны год. У вочак, якія прыняліся, ча-




**СПРОБЫ ПРЫШЧЭПЛІВАННЯ ЧАРАНКОМ: 1 — акуліроўка палепшаная: 2, 3 — акуліроўка ўпрыклад; 4 — акуліроўка сядлом; 5 — прышчэпка ў расшчэп; 6 — прышчэпка за кару.**

рашок ліста пры лёгкім дотыку да яго адвальваецца. У гэты час трэба не забывацца аслабіць павязку. Калі вочка не прынялося, то чарашок не адпадзе. Дзічкі, якія не прынялі акуліроўку, прышчэпліваюць яшчэ раз.

ПРЫШЧЭПКА ЧАРАНКОМ праводзіцца часцей за ўсё пры акультурванні дзікарослых пладовых дрэў і для перапрышчэпкі крон дарослых дрэў іншымі гатункамі. Прышчэпліваюць вясною, але чаранкі нарыхтоўваюць з восені, да наступлення моцных маразоў, і захоўваюць пукамі ў халодным, але непрамярзаючым склепе, закапаўшы ніжнімі канцамі (на адну трэць іх даўжыні) у вільготны пясок.

Ёсць шмат спосабаў прышчэпкі чаранком. На маладых пладовых дрэвах і на танейшых галінах робяць акуліроўку да пачатку распускання пупышак. Распаўсюджана прышчэпка маладых дрэў за кару — у пачатку сокаруху. Для та҃сцейшых галін робяць прышчэпку ўпрыклад, у расшчэп. Чаранок павінен мець дзве — тры пупышкі. На тарцы галіны, да якой прышчэпліваюць чаранок, робяць касы зрэз з такім разлікам, каб даўжыня яго была ў тры — чатыры разы большая за таўшчыню тарца. Такі самы касы зрэз робяць на ніжнім канцы чаранка. Затым чаранок прыкладваюць да тарца галіны так, каб граніцы камбія (падкорны слой, па якім рухаецца сок) чаранка і галіны дакладна супадалі. Месца прышчэпкі шчыльна абвязваюць мачалам, а зверху абмазваюць садовай замазкай. Замест мачала можна ўзяць ізаляцыйную стужку.

Садовую замазку можна падрыхтаваць па адным з наступных трох рэцэптаў: 1. Пяць частак воску, столькі ж каніфолі, адна частка несалёната свінога сала і 5 частак шкіпінару. 2. Дзве часткі ільнянога алею, паўтары часткі яловай смалы, паўчасткі коламазі і адна частка шкіпінару. 3. Шэсць частак каніфолі, дзве часткі пчалінага клею, тры часткі воску і тры часткі шкіпінару. Сумесь разгатаваць на пліце (у печы можа загарэцца!). астуджваюць і трымаюць у закрытым слоіку. Некаторыя садаводы пры адсутнасці садавой замазкі ўжываюць каляровую гліну - пласцілін.

## УСЯКАЯ

Толькі 29,2 працэнта, гэта значыць менш адной трэцяй паверхнасці зямлі, займаюць мацерыкі і астравы; астатнія дзве трэція, дакладней 20,8 працэнта яе, складаюць акіяны, моры і азёры.

*

Самая вялікая з жывёл — сіні кіт, або блювал. Сэрца дарослага блювала важыць 600 — 700 кілаграмаў, гэта значыць столькі ж, колькі вялікі конь, а мозг — усяго 6 — 7 кілаграмаў.

## УСЯЧЫНА

*

Некаторыя птушкі — арлы, грыфы, кондары — могуць набіраць вышыню да 6000 — 7000 метраў.

*

Каб выпрацаваць 100 грамаў мёду, пчала павінна аблётаць прыкладна мільён кветак, прынесці 12 тысяч нош нектару.

*

## УСЯКАЯ

Махмадкул Увадаў з калгаса імя Куйбышава ў Таджыкістане мае толькі тры гады, а важыць ужо 42 кг і дасягнуў росту 110 см. Ён вельмі сільны. 10-гадовыя хлопцы не могуць яго пераадолець.

*

На працягу апошніх 80 год востраў Корсіка ў Міжземным моры прасунуўся ва ўсходнім напрамку на 10—12 км.

*

Бамбук — адна з хуткарастучых раслін на зямлі. За суткі вырастае на 50—60 сантыметраў.

## УСЯЧЫНА

*

Саноўнікі рэспублікі Мадагаскар з'яўляюцца мусульманамі і законна маюць дзве альбо больш жонак, з якімі прыязджаюць у часе афіцыяльных візітаў у Парыж. Пасля многіх канферэнцый дыпламатычны пратакол наканец устанавіў, што саноўнікі могуць прыязджаць у Парыж з некалькімі жонкамі, але на афіцыйныя прыёмы будзе запрашацца толькі адна жонка, (а якая — гэта залежыць ад саноўніка).

## Цэйлонскія сланы



Сланы на Цэйлоне належаць да роду індыйскіх сланоў. Яны трохі большыя ад афрыканскіх, але самцы часта дасягаюць больш трох метраў вышыні і вага іх больш трох тон.

Сланы лёгка прыручаюцца. Гэта разумныя і міралюбівыя жывёліны. У заапарку ў Каламба сланы захапляюць гледачоў танцамі і фокусамі.

Цэйлонскія сланы не толькі артысты, гэта надзвычай працавітыя жывёліны, верныя памочнікі чалавека. Іх шырока выкарыстоўваюць у розных цяжкіх працах. Слон валодае незвычайнай сілай. Ён можа перацягваць бярвенні вагай да 5 тон. На востраве, дзе не хапае тэхнікі, слон выконвае работу пад'ёмнага крана і цягача. Для абучэння вылаўліваюцца сланяты не менш чатырох і не больш васьмі футаў ростам. Старэйшыя сланы з цяжкасцю паддаюцца дрэсіроўцы. Абучаны дарослы слон каштуе на Цэйлоне 7—10 тысяч рупі — столькі каштуе невялікая легкавая машына.

У мінулым на Цэйлоне было многа тысяч сланоў. У нашы дні цэйлонская статыстыка прыгадвае жахлівую цыфру — у краіне асталося ўсяго 1700 сланоў! Размнажаюцца сланы вельмі паволі. Самка носіць сланёнка дваццаць два месяцы і за ўсё сваё жыццё дае ў джунглях пры самых спрыяльных умовах усяго тры прыплоды — па аднаму сланёнку кожны.

## МОДНЫЯ ПРЫЧОСКІ







# Гумар сатыра

### НЯВЕРНЫ

— Навошта ты купіў папугая?

— Хачу пераканацца, ці гэта праўда, што ён жыве 300 год.

**Віктар Баран**
Палічна

### САМААБСЛУГОЎВАННЕ

### ЦІ БАНЬКІ ХВАРЭЮЦЬ

Малы хлопчык бачыў, як маці ставіла бацьку на плячах банькі.

— Мама, ці тата ўжо будзе здаровы, а банькі захварэюць? — спытаўся хлопчык.

**Валя Андрэюк**
Зубава

### ЦЯЖКІ АДКАЗ

Настаўнік: — Скажы Валодзя, як спрагаецца дзеяслоў?
Валодзя маўчыць.
Настаўнік: — Ну, што Валодзя, мо' пытанне цяжкае?
Валодзя: — Пытанне лёгкае, але адказ цяжкі.

**Коля Гаўрылюк**
Крывая

### ЯК У ВАС, ТАК І Ў НАС

Адна дзяўчына выйшла замуж. Аднойчы пытае яна свякруху:
— Як у вас курэй клічуць?
— Як у вас, так і ў нас, — адказала свякруха.
Нявестка выйшла на панадворак і давайклікаць курэй:
— Як у вас, так і ў нас, як у вас, так і ў нас, — крычыць яна на ўвесь голас

**Оля Сэвэрын**
Мастаўляны

### У СВАТАХ.

Аднойчы хлапец паехаў у сваты да адной дзяўчыны.

— Колькі ж вы, тату, дасце мне пасагу, — добра падвыпіўшы, запытаў ён у будучага цесця.

— Пасаг у мяне для кожнай дачкі вызначаны, — адказаў цесць. Для наймалодшай, што ты хочаш браць за жонку, карова і 5 тысяч злотых. Для сярэдняй — карова і 10 тысяч злотых. Для старэйшай — карова і 20 тысяч злотых.

— А ёшчэ старэйшай дачкі ў вас няма? — запытаў малады.

**Н. Кавальчук**
Крушыняны

### НЕ ЗРАЗУМЕЎ

— Ведаеш, майму брацiку выразалі сляпую кішку.
— І што, цяпер ён лепш бачыць?

**Лявонь Федарук**
Рыбалы

Без слоў

У дзень па дошцы...

..І злодзею хата

## Ой, чуць, маці, чуць!..

(Беларуская народная песня)

Ой чуць ма-ці — чуць. Дзе ма-лой-цы — п'юць
Вя-сё-ла-я там ву-леч-ка ку-ды я-ны йдуць

Ой чуць, маці, чуць,
Дзе малойцы п'юць!
Вясёлая там вулачка,
Куды яны йдуць.

А знай, маці, знай!
Дачку замуж дай.
Не дай мяне за п'яніцу;.
После ж будзе жаль.

Дачушка мая.
Родная мая!

Шукай сабе, вы[illegible]ай:
Яшчэ ж малада.

Матулька мая,
Родная мая!
Я й шукала, выглядала.
А ня выбрала.

Не маш мне раўні
Ў сяле між сваймі,
Хіба ўжо там далёканька
Паміж чужымі

# Кукуруза

У паветры вясной дыхнула, мілыя грамадзяне. Мо' і таму нашых людзей так разабрала. Проста ашалелі людзі, ды толькі. Дзе не павернешся, усё аб кукурузе гавораць. Нават дзяўчаты, і тыя зацікавіліся кукурузай. Пафарбавалі кукурузныя зярняты ды нанізваюць іх на ніткі. Пацёркі, кажуць, навамодныя. Калі так далей пойдзе, дык хутка кукурузы на пасеў не застанецца. Уся на каралі пойдзе.

Нядаўна сустракаю я суседа. Бачу, кніжку валачэ пад рукой.

— Паэзію, ці мо' раман цягнеш? — пытаю.

— «Кукуруза на пашу» — адказвае сусед.

— Вось дурны, — думаю. — Людзі кароў на пашу гоняць, а ён кукурузу. Учора зноў каля грамадскай рады чатырох сабралася і бачу нешта важнае абмяркоўваюць, бо рукамі махаюць, як вятрак крыллямі.

— Над чым, людзі добрыя, дыскутуеце? — пытаю. — Кандыдатуру новага старшыні абмяркоўваеце, ці мо' галавы ломіце над выкарыстаннем сонечнай энергіі?

— Размова аб кукурузе, — кажа адзін.

— З кукурузы можна раслiннае масла выціскаць, — дадае другі.

— Вялікая рэч! — адказваю скептычна. — Пад ціскам прэса і з табурэткі пацячэ масла. Вынаходцы, чорт пабяры; — кажу, узлаваўшыся.

Пасля гэтых слоў «кукурузаманы» як ракі за мяне ўчапіліся ды ў самае вуха крычаць:

— Цёмная ты маса! Кукуруза ў сельскай гаспадарцы пераварот робіць. На 15% даход павялічыць. Ад кукурузы свінні растуць, як на дражджах.

Адапхнуў я кукурузных фанатыкаў ды кажу:

— Свінні таўсцеюць ад кожнага зярняці. Давай хаўронні ячмень, або пшаніцу — саланіна будзе як масла.

— Людзіна! — ускрыкнуў адзін з субяседнікаў. — Дык ты зусім разліку не ведаеш. Кілаграм кукурузы замяняе два кілаграмы ячменя. Кукурузай шмат лягчэй выкарміць свінню.

— А з кукурузнай мукой ты знаёмы? — наступаў другі.

— Мамалыгу з маслам і малаком еў? — сыпалі пытаннямі кукурузныя грамадзяне.

— Маладзенькую ды добра зваранную кукурузу люблю, — прызнаўся я шчыра. — Калі качан пасаліць, ды яшчэ маслам памазаць — выходзіць зусім нядрэнна. Але гэта яшчэ не значыць, што з-за кукурузы вар'яцець трэба.

— Карысці ад твайго разважання, як ад вылушчанага кукурузнага качана, — заявіў з жалем у голасе адзін з прысутных ды адышоў.

Вечарам у вясковай святліцы паявіўся нейкі кукурузны дзеяч, абяцаючы прачытаць лекцыю аб ролі кукурузы ў харчавой прамысловасці. З цікавасці іду ў святліцу ды думаю, што свет перавярнуўся ды людзі ачумелі на кукурузе. Ну няхай сабе нейкія там румыны захапляюцца кукурузай. Але ж нам, гэта зусім лішняе. Заходжу ў святліцу, а тут усе лаўкі заняты. Людзі галавы выцягваюць, як бы чакалі, што вось пачнуць варaныя кукурузныя качаны раздаваць.

Тут дакладчык пачаў аб кукурузе расказваць, ды так лоўка, што я не заўважыў, калі сам пачаў лавіць яго словы.

Аказваецца, кукурузу вырошчваць шмат выгадней, чым пшаніцу. Кукуруза не баіцца засухі, яна ўстойліва ў час градабіцця і на дажджавыя дні вельмі вынослівая.

Лісткі і сцябліны кукурузы — незаменная паша жывёле. Сухія і вылушчаныя качаны выкарыстоўваюцца як апал. Ну і налічыў дакладчык 150 карысных прадуктаў, якія атрымоўваецца з кукурузы.

Мілыя чытачы, хто ж мог прадбачыць, што ў гэтай расліны змяшчаецца розная карысці больш, чым зярнят у кукурузным качане.

Дзядзька Лявонь

Бельгія заявіла, што падпарадкуецца пастанове Савета бяспекі ААН.

Адкліканне бельгійскага вайсковага складу з Конга.
(Шпількі)